// КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 26 (187), 19 -25 ЛІПЕНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 1000 РУБЛЁЎ





## Старонка жыцця Іллі Рэпіна на Беларусі



# “МАЁНТАЧАК МОЙ ЗАВЕЦЦА ЗДРАЎНЁВА...”



У 1891 на юбілейнай выстаўцы Іллі Рэпіна ўпершыню экспанавалася яго выдатная карціна “Запарожцы пішуць ліст турэцкаму султану”, якая была прададзена за 35 тысяч рублёў. Кошт палатна быў настолькі вялікі, што П.Траццякоў не меў магчымасці яго купіць. Карціну набыў імператар Аляксандр III. Вось за гэтыя грошы, а дакладней за іх трэць, у канцы 1891 года Рэпін і прыдбаў 75 гектараў урадлівай зямлі, 45 гектараў яловага лесу, 40 галоў жывёлы, 4 кані, сад і драўляны маёнтак Здраўнёва на правым беразе Заходняй Дзвіны, што ў 16-ці кіламетрах ад Віцебска.

На тое былі і іншыя прычыны: скасаванне шлюбу з жонкай Верай Аляксееўнай, у выніку якога дзве старэйшыя дачкі Вера і Надзея засталіся з бацькам, а малодшую Таню і сына Юрыя забрала маці. Акрамя таго, у гэты час Рэпін амаль са скандалам выходзіць з Таварыства мастацкіх перасоўных выставак.

***(Заканчэнне на 3-й стар.)***

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# "КОЛА СПОВЕДЗІ"

Кожны чалавек у сваім жыцці свядома ці несвядома робіць грахі. Але аднойчы наступае такі момант, калі наша душа, як скарбонка капітоўнасцямі, перапаўняецца грахамі. Тады душа патрабуе ачышчэння. Наступае час споведзі.

У кожнага споведзь розная. Нехта з адкрытай душой ідзе да яе, нехта імкнецца яшчэ тужэй зацягнуць замок на грахоўнай скарбонцы, апраўдваючы сябе і не жадаючы прызнаць сваё паражэнне.Але споведзь адбываецца.

Спектакль "Пры зачыненых дзвярах" Сартра ў пастаноўцы Віталя Катавіцкага — гэта споведзь трох душ. Тры душы апынуліся ў чысцілішчы. Перапоўненыя грахамі, яны прагнуць спавядацца, але кожная з іх баіцца ў прысутнасці дзвюх іншых заявіць аб сваіх заганах і прызнаць сваю віну.

У спектаклі ствараецца атмасфера ўсенагляду, і гэта яшчэ больш не дае душам грэшнікаў раскрыцца. Праз рэальнага персанажа — час ад часу на сцэне з'яўляецца Калідорны (В.Моўчан), які то стаіць на балконе і паліць цыгарэту, то праходзіць па пакоі, — дасягаецца ўражанне, нібыта над пакоем навісла "вялікае вока", якое стварае атмасферу ірэальнасці і звышнатуральнасці.

Ды і сцэнаграфія Зіновія Марголіна не стасуецца з жыццёвым рэалізмам. Адыходзячы ад жыццёвых дэкарацый Сартра са звычайнымі рознакаляровымі канапамі, мастак робіць дэкарацыі ў чымсьці падобнымі да турэмнай камеры. Але больш за ўсё жалезныя збудаванні, падобныя да яйка, куба, і труны, нагадваюць НЛА.

Чысцілішча ў спектаклі — маленькая мадэль рэальнага жыцця, у якой паўтараецца кола жыццёвых дзеянняў ва ўскладненай, завостранай форме.

Класічны любоўны трохкутнік тут хутчэй нагадвае замкнёнае кола. Гарсэну патрэбная вера моцнай Інэс, Інэс патрэбная фізічная любоў Эстэль, Эстэль мае патрэбу ў каханні сапраўднага мужчыны. Вось кола, з якога няма выйсця, бо кожны з герояў не можа даць іншаму тое, што таму патрэбна.

Згубіўшы веру ў рэальным жыцці, Гарсэн дабіваецца яе ад моцнай, псіхалагічна стрыманай Інэс. Алена Акулёнак робіць Інэс "жалезнай лэдзі", машынай, якая, упарта ідучы да сваёй мэты, знішчае ўсе перашкоды на сваім шляху. Жорсткая,цынічная, стрыманая, меркантыльная Інэс не хоча ісці да Гарсэна толькі таму, што Эстэль адмовілася аддаць ёй сябе. Калі не мне, дык і нікому — вось яе прынцып.

Зусім па-іншаму адбываецца з Гарсэнам і Эстэль. Эстэль не можа аддаць сябе Інэс таму, што яна іншая: яна кахае мужчын і хоча, каб яны яе кахалі. Яна адчувае агіду да Інэс. Знешнасць Алены Унукавай гарманічна суадносіцца з унутраным светам яе гераіні. Яна мяккая, пластычная, па-жаночаму салодкая, з выгляду наіўная, а ў душы пачвара —якая змагла забіць сваё дзіця. З-за таго, што Эстэль не дапускае лесбійскай любові, яна зачыняе дзверы пакаяння перад Інэс. Але, у сваю чаргу, дамагаецца ад Гарсэна таго, што ён ёй не можа даць. Эстэль для таго, каб атрымаць дараванне, патрэбна каханне сапраўднага мужчыны. Але які ж Гарсэн сапраўдны мужчына, калі ён здзекаваўся са сваёй жонкі, калі ён збег адтуль, дзе патрэбна была яго дапамога, і цяпер усімі фібрамі сваёй грэшнага цела хоча здабыць веру, якая патрэбна яму, каб атрымаць дараванне.

Гарсэн — баязлівец, Інэс — лесбіянка, Эстэль, па вялікім рахунку, — забойца. Усе людзі розныя. Што ні чалавек — то характар, што ні чалавек — загана. Але грэх робіць усіх аднолькавымі. Перад Богам мы, незалежна ад сацыяльнага стану, ад матэрыяльных магчымасцей, паўстаем як вялікія грэшнікі. У спектаклі маскі Гарсэна, Інэс і Эстэль робяць іх зусім падобнымі адзін да аднаго. У іх няма свайго асабістага выразу твару, усе яны — маскі , за якімі стаяць разнастайныя букеты грахоў. Адзінае, што адрозніявае маску Эстэль ад масак Інэс і Гарсэна, — гэта вялікія вусны, якія Інэс намалявала яркай памадай на масцы Эстэль, як сведчанне прыемнай, усмешлівай знешнасці, за якой схавана заганнасць.

Свае грахі персанажы бачаць у конусе, які чырвоным агнём гарыць пасярэдзіне сцэны. Гэта як люстра ў мінулае, люстра, што нагадвае аб учынках, за якія цяпер мусіш пакутаваць. Гэта як "шар Сарумана" са славутай ангельскай казкі пра хобітаў, зазірнуўшы ў які, бачыш тое, што бачыць не хацелася б.

Рэальна бачачы свае грахі, ні Гарсэн, ні Інэс, ні Эстэль не ідуць адкрыта на споведзь. Яны ўсяго толькі адзін праз аднаго хочуць атрымаць дараванне, а душа іх застаецца глухой да шчырага раскаяння. Іх расказы пра свае ўчынкі — усяго толькі аповеды, без усведамлення сваёй віны.

Маленькая мадэль рэальнасці пачынае распаўсюджвацца на ўвесь свет. Адчыняюцца адны дзверы, другія, трэція, утвараючы вузкі праход на вуліцу. Што ж там? А там тое самае. Жорсткі свет, у якім грахі не лічацца грахамі, у якім усе мы адзін для аднаго — каты. Свет, дзе няма сапраўднага кахання, няма шчырасці і проста любові аднаго чалавека да другога. Але гэта свет, у якім ніхто яшчэ, не прайшоўшы кола споведзі, не атрымаў даравання...

**Святлана ПАЗНЯК,**
**студэнтка факультэта мастацтвазнаўства Беларускай акадэміі мастацтваў**

Рэпартаж

# АЙЦЮКІ MADE IN BIELARUŚ

з лапцем на шыі

***Калі накіроўвалі ў камандзіроўку на тры дні ў вёскі Малыя і Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці спецыяльнага карэспандэнта нашага штотыднёвіка для асвятлення правядзення Першага ўсебеларускага фестывалю народнага гумару, мы і не здагадваліся пра тыя выпрабаванні, якія могуць легчы на ягоныя плечы ці, даруйце, дакладней — яго жывот. Перанёсшы нейкі тыдзень таму аперацыю па выдаленні апендыкса, ён кінуўся ў рызыкоўную для жыцця творчую камандзіроўку. Перадольваючы выпрабаванні смехам, дэгустацыяй паляшуцкіх пачастункаў і зусім не дзіцячых напояў мясцовай вытворчасці, ледзь жывы, але са спісаным журналісцкім нататнікам і дыктафоннымі стужкамі, дзе — разнастайныя анекдоты, прыпеўкі, байкі, жартоўныя песні, ён усё ж такі (тут здароваму чалавеку не вытрымаць) вярнуўся ў родную рэдакцыю...***

Для сямі журналістаў беларускіх рэспубліканскіх выданняў, акрэдытаваных у Мала-й-Вялікааўцюкоўскай рэспубліцы, арганізатараў, членаў вельмішаноўнага журы, мінскіх музыкаў і замежных дэлегатаў "прыколы" пачалі адбывацца ўжо задоўга да адпраўлення ў далёкае падарожжа на "Ікарусе" Міністэрства культуры і друку. Людзі творчыя, як вядома, з'яўляюцца людзьмі занятымі і не заўсёды пунктуальныя. А таму без спешкі не абысціся. Так, двое з нас з гэтай жа прычыны асмеліліся перайсці праспект у непрадугледжаным месцы, чым зрабілі свой унёсак у статыстыку парушэнняў правілаў дарожна-транспартнага руху, і за што былі злосна пакараны пастаўленым міліцыянерам. Усё не менш злосна фіксавалася на відэастужку рэжысёрам Сансанычам з айчыннага тэлебачання. Гэты ўрок пайшоў нам на карысць. У далейшым мы былі самымі законапаслухмянымі грамадзянамі — як-ніяк у іншую рэспубліку сабраліся ехаць.

Сумаваць у дарозе, яна, дарэчы, забрала каля пяці гадзінаў, не давялося. Усе былі напужаныя словамі старшыні аргкамітэта фэсту сп.Тадэвуша Стружэцкага, што з абыякавымі да жыцця тварамі нас не прапусцяць праз аўцюкоўскую мытню. А таму — увесь аўтобус рагатаў, гаманіў і гатовы быў разлязецца па швах ад гучных спеваў.

*(Заканчэнне на 8-й стар.)*




# ТРЫ ГАДЗІНЫ Ў СЯРЭДНЯВЕЧЧЫ

***15 ліпеня ля Палаца моладзі адбылося прыгожае тэатралізаванае свята. Свята з нагоды 585-х угодкаў Грунвальдскай бітвы. Маленькі кавалачак нашай далёкай мінуўшчыны прадстаў перад гледачамі ў поўнай красе: турнір, дзе завадатарамі былі рыцары ордэна "Сэрца дракона", прыгажуні дзяўчаты, менестрэлі і блазны.***

**Наталля ПІНЧУК**
**Фота: Яўгена ПЯСЕЦКАГА**

# ВЫСОКАЯ МОДА НА БЕЛАРУСІ

З 25 па 28 ліпеня ў Беларускім цэнтры моды пройдзе Фестываль моды. Асноўнай мэтай гэтага свята з'яўляецца падтрымка прэстыжу творчых сіл беларускага дызайну, якія некалі лічыўся адным з лідэраў у галіне моды.

Перад шырокім колам гледачоў плануецца паказаць калекцыі вядучых дызайнераў Беларусі, якія потым возьмуць удзел у конкурсе, а ў якасці гасцявых — калекцыі фірм Францыі, Германіі, Італіі.

**Наш кар.**

# АДКРЫЦЦЁ ТАЯМНІЦ КРЭЎСКАЙ УНІІ

Пабачыў свет чарговы, трэці ў сёлетнім годзе нумар гісторыка-публіцыстычнага часопіса "Беларуская мінуўшчына". Што ні кажы, падзея. Па-першае, ужо таму, што выданне засведчыла: рэдакцыя абавязацельствы свае выконвае і замест леташніх чатырох мяркуе выдаць у 1995 годзе шэсць нумароў. Па-другое, з нумара ў нумар часопіс становіцца яшчэ больш цікавым, багацейшым па змесце. Вось і трэці сшытак "Беларускай мінуўшчыны" раскрывае таямніцы Крэўскай уніі (аб гэтым піша Станіслаў Цярохін), уводзіць у сховішчы архіваў (артыкул Андрэя Рыбакова "Князь Гердзень кланяецца ўсім..." і Аляксандра Міхальчанкі "Той, хто кантралюе крыніцы інфармацыі, кантралюе ўсё"), знаёміць з Пінскай рачной фла'тыліяй (даследаванне Рамана Паўловіча).

Асобнае месца ў часопісе займаюць матэрыялы, у якіх расказваецца пра славутага беларускага краязнаўцу Аляксандра Карлавіча Ельскага, а таксама пра мясціны, дзе ён нарадзіўся, жыў, працаваў. Дарэчы, менавіта там, на старажытнай дудзіцкай зямлі, зараз створаны музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі".

**Кастусь СЕМЯНОВІЧ.**

**27 ліпеня а 18 гадзіне ў Мінску, у парку імя М.Горкага адбудзецца літаратурна-бардаўская імпрэза "Мембраны". У ёй возьмуць удзел ЗРУХАРЫ "Бум-Бам-літа"**

# СВЯТА Ў САЛІГОРСКУ

15 ліпеня ў Салігорску ў Палацы культуры праходзіла свята, прысвечанае Грунвальдскай бітве. Першую палову праграмы рабілі бард Валеры Пазнякевіч і мясцовая спявачка Арына Максімаўцава. Далей праграму працягвалі госці з. Мінска, бумбамлітаўцы: Серж Мінскевіч, Зміцер Вішнёў, Алесь Туровіч, Ільля Сін, Сева Гарачка. Выступілі: салігорскі літаратар Хведар Гурыновіч, арганізатар вечарыны М.С.Мацюкевіч. Усім выступленне спадабалася, акрамя прадстаўніка гарвыканкама.

**Наш кар.**

ЛЕС МАСТАЦТВА

# "МАЁНТАЧАК МОЙ ЗАВЕЦЦА ЗДРАЎНЁВА..."

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Словам, у выніку ўсіх гэтых перажыванняў здароўе мастака дужа пахіснулася, і яго, натуральна, цягнула на ўлонне прыроды. І менавіта такі куток ён знайшоў на Беларусі. Іллю Яфімавіча прывабіла сюды перш за ўсё непаўторная прырода: некранутыя лясы, рака, неабсяжныя лугі і палі, а галоўнае — глыбінны, своеасаблівы побыт народа. Пераехаўшы ў Здраўнёва, ён нарэшце атрымаў доўгачаканы адпачынак і ціхі куток, а блізкасць да Віцебска забяспечвала яму хуткі і беспераШкодны выезд у Пецярбург і Маскву.

Амаль кожнае лета Рэпін разам са сваім бацькам і дочкамі праводзіў у Здраўнёве. У яго лістах тых гадоў — шмат апісанняў гэтага месца. 27 чэрвеня 1892 года ён пісаў Н.Стасавай: "Маёнтачак мой завецца Здраўнёва — гэта найбольш папулярная і даўняя назва гэтага месца. Але калі Вы напішаце проста "Віцебск" — гэта ўсё, што трэба, па пошту пасылаем. Тут хораша, край сімпатычны, цёплы: надвор'е ўсё цудоўнае стаяла... А якія тут лугі! Якая трава, якія кветкі! І колькі суніц! Такіх буйных і салодкіх, у дзікім стане, у лесе я ніколі не бачыў".

Працяглы час вядзецца рамонт і перабудова дома, умацоўваецца каменем бераг Дзвіны, узводзіцца над домам вежа-майстэрня. У 1893 годзе Ілля Яфімавіч паслаў у лісце да Н.Стасавай свой малюнак дома ў час перабудовы. Мастака акружаюць тут рабочы люд, сяляне, часам наведваюць яго і мясцовыя інтэлігенты. У лісце да Уладзіміра Стасава ён піша: "Жыву самым першабытным жыццём, якім жылі яшчэ грэкі "Адысеі". У радках чарговага паслання адзначае: "У мяне ад рыдлёўкі агрубелі рукі; але на беразе так весела! Пастаянна праходзяць партыі бурлакоў... З вялізнымі ветразямі ідуць баржы супраць плыні быстрай ракі ад Віцебска да Суража, Веліжа ўверх, а адтуль нясуцца па імклівай вадзе".

Бадай упершыню Ілля Яфімавіч так непасрэдна ўваходзіць у жыватворны народны побыт, так блізка бачыць жыццё беларускіх сялян: "Жыццё вакол мяне тут, ва ўсіх істотах, сітуацыях і абстаноўцы так моцна прысмакталася да зямлі, так рысліва матэрыяльна да скупасці і так сур'ёзна па сваёй рэальнасці, што мастацтва ўяўляецца мне чымсьці дзіўным, недарэчным".



*Ёсць у Віцебску ў краязнаўчым музеі выдатны твор таленавітага беларускага жывапісца Леаніда Шчамялёва, які ён назваў "Рэпін у Здраўнёве". Вялікі мастак адлюстраваны ў гэтым цудоўным куточку прыроды сярод чароўных беларусак, якіх ён так палюбіў...*

У Здраўнёве ім былі напісаны карціны "Квітнеючыя яблыні", "Усход сонца", "Месячная ноч", два эцюды "Беларус" і "Селянін", палотны "Асенні букет", "Паляўнічы", "У полі", "Паненка ў садзе", тры партрэты дачкі Веры і мноства алоўкавых замалёвак і акварэлей. Усе гэтыя работы вельмі ярка адлюстравалі цудоўную прыроду і быт Наддзвіння, а ў эцюдах "Беларус" і "Селянін" — жыхароў гэтага краю. "Беларус" напісаны мастаком са сляпога селяніна Сідара Шаўрова з вёскі Сахарава, па іншай версіі — з дзвінскага плытагона Сцяпана Крывенкі, які памёр у 1932 годзе. Так ці інакш, у гэтай рабоце паказаны не толькі характар канкрэтнага чалавека, але і выяўлены яго нацыянальныя рысы.

Аб карцінах "Асенні букет" і "Паляўнічы" (дачка Надзея ў паляўнічым касцюме) Рэпін у лісце да Т.Талстой казаў:" Пачаў быў пісаць узыход сонца над Дзвіной ( я кожную раніцу, як піфагарэец, гатовы яму спяваць гімны — як гэта велічна!!!), але пейзаж мне не даецца. Потым пісаў эцюд з Надзеі на паветры. Яна ў паляўнічым касцюме, са стрэльбай за плячамі і з гераічным тварам... Цяпер пачаў пісаць з Веры; пасярод саду, з вялікім букетам простых асенніх кветак, у берэце, жыццярадасную, юную і пяшчотную". "Асенні букет" — адзін з лепшых твораў мастака пачатку 90-х гадоў. Гэта гімн юнацтву ў яго самым запаветным яднанні з прыродай.

Жывучы ў Беларусі, мастак не мог не зацікавіцца яе гісторыяй. На Віцебшчыне ён сустракаўся з Ю.Пэнам і К.Савіцкім, з гісторыкам А.Сапуновым. Ілля Яфімавіч часта бывае ў самім Віцебску. "Якія цудоўныя тыпы ў Віцебску, — даводзіць ён У.Стасаву, — вось дзе Біблію пісаць, і маўраў нават многа — цуды якія ёсць!"

Тэмы і матывы Беларусі ўсё больш і больш захапляюць Рэпіна. Нарэшце ён задумвае напісаць вялікую кампазіцыю з жыцця беларускага народа. Аб гэтым ён паведаміў сябрам так: "Нядаўна тут да мяне з'явіўся адзін беларус, адвакат Стукаліч, прывёз сваю кніжку "Белоруссия и Литва", вельмі зацікавіў эпізодам забойства Іасафата Кунцэвіча. Усё гэта адбылося тут, у Віцебску: і сцены Успенскай царквы, і плошчы яшчэ ўцалелі, і розныя варыянты цудаў з пакутніцкім каменем. Словам, гісторыя гэта мае вялікае ідэйнае значэнне, як сутыкненне прыгнечанага народа з духоўнай каталіцкай арыстакратыяй, якая занявольвае яго".

Уніяцкі полацкі арцыбіскуп Іасафат Кунцэвіч, не лічачыся з праваслаўнай царквой, жорстка і заўзята насаджаў каталіцкую рэлігію. Ворагі далі Іасафату мянушку "душахват" — ловец душ. Гэтыя яго дзеянні выклікалі абурэнне і гнеў насельніцтва многіх гарадоў Беларусі, у тым ліку Магілёва, Полацка, Мсціслава, Оршы, Віцебска. Па сігнале вечавога звона гарадской ратушы паўстаўшы народ Віцебска 12 лістапада 1623 года ўварваўся ў палаты арцыбіскупа і забіў яго, а цела кінуў у Дзвіну. Народ разбурыў не толькі дом Іасафата каля царквы Багародзіцы, але і Прачысценскую царкву. Пазней па загадзе Льва Сапегі 16 бунтаўшчыкам былі адсечаны галовы. Вечавы звон знялі на пераплаўку, ратушу разбурылі, а Віцебск пазбавілі магдэбургскага самакіравання.

Гэта народнае паўстанне і паслужыла матэрыялам для задуманай карціны "Прапаведзь Іасафата Кунцэвіча на Беларусі". Мастак паспеў зрабіць звыш 40 эцюдаў з сялян, алоўкавы накід кампазіцыі. Тое, што падобныя тэмы гісторыі Беларусі працягвалі хваляваць мастака, сведчыць ліст Рэпіна да гісторыка А.Сапунова, аўтара пяцітомнай працы "Витебская старина": "Глыбокапаважаны Аляксей Парфёнавіч! Дзякуй Вам за Вашы цудоўныя кнігі... Гэта выдатнае і цікавае выданне. Якая сур'ёзная праца, колькі сабрана матэрыялаў. Я пакрысе займаюся з імі. Вельмі, вельмі ўдзячны Вам..."

Выдатным творам Рэпіна, які быў напісаны ў Здраўнёве, стала карціна "Дуэль", якая мае яшчэ назву "Прабачце". Віноўнік абразы, смяротна паранены, дараваў свайму забойцу і просіць у яго прабачэння, працягвае яму руку. Расказваюць, калі Леў Талстой пабачыў гэтую карціну , ён заплакаў. Ён быў усхваляваны не толькі зместам твора, блізкім яго філасофіі, але і высокай якасцю выканання. Напрыклад, прамень сонца быў так бліскуча напісаны, што пра яго доўга размаўлялі італьянскія мастакі, як аб "святле Рэпіна". А як цудоўна мастак намаляваў узлесак, усход сонца, пазалоту дрэў, фігуры людзей! На жаль, Траццякоў карціну ўпусціў, і яе набыла італьянка Кармэн Тыранці і адвезла з Венецыянскай выставы ў Ніцу.

У 1899 годзе Ілля Яфімавіч ажаніўся з Наталляй Барысаўнай Нордман-Севераваі і пераехаў жыць да яе на леціпча "Пенаты", у Фінляндыю, у дзвюх гадзінах язды ад Пецярбурга. Тут, на Карэльскам перашыйку, і прайшлі апошнія трыццаць гадоў жыцця Рэпіна.

Пасля ад'езду мастака ў Здраўнёве была створана школа для сялянскіх дзяцей, у якой выкладала малодшая дачка Рэпіна — Таццяна, а пазней і яго ўнучка. У Здраўнёве нарадзіліся тры праўнукі Рэпіна і адна праўнучка. Але летам 1930 года блізкія Іллі Яфімавіча пакінулі Віцебшчыну і выехалі ў Фінляндыю, да бацькі, які, на жаль, у канцы верасня гэтага ж года памёр. А хутка струхлелы здраўнёўскі дом прыйшоў у нягоднасць. І доўгія гады добрыя людзі марылі адрэстаўраваць "беларускія Пенаты". Толькі у 1989 годзе мара гэтая ажыццявілася — цудоўная вежа-майстэрня вялікага славянскага мастака зноў паднялася над Дзвіной...

**БАРЫС КРЭПАК**

# ГАРАЦЬ КНІГІ І ЛЮДЗІ

Як сведчыць статыстыка, у першым паўгоддзі на аб'ектах Міністэрства культуры і друку адбылося 25 пажараў, агульныя страты ад якіх ацэньваюцца на суму больш за 3 мільярды рублёў. Ільвіная доля гэтых стратаў прыпадае на пажар у музеі І.Рэпіна ў Здраўнёве пад Віцебскам.

Сярод найбольш жахлівых здарэнняў — пажар у рэспубліканскім Доме друку 12 красавіка, дзе пасля п'янкі ў фоталабараторыі загінуў спецкарэспандэнт газеты "Беларуская ніва". 5 студзеня ў Гомелі згарэў ушчэнт драўляны клуб Савецкага райвыканкама. У вёсцы Патаповічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці 4 лютага згарэў будынак бібліятэкі: ад няспраўнай печкі агонь перакінуўся на кнігі, што складзіраваліся ўшчыльную да яе. Матэрыяльныя страты склалі каля 29 мільёнаў рублёў, адзін чалавек атрымаў апёкі.

Гараць, канешне, не толькі аб'екты культуры. За першае паўгоддзе ў Мінску адбылося 1090 пажараў, у якіх загінулі 33 чалавекі, а ў дым і агаркі ператварыліся будынкі і рэчы на суму 3 мільярды 55 мільёнаў рублёў. Прычым, з кожным годам людзей гіне ўсё болей (за ўвесь мінулы год у Мінску згарэлі і атруціліся дымам 42 чалавекі — у тым ліку два студэнты Беларускай акадэміі музыкі).

Асноўная прычына пажараў — неасцярожнае абыходжанне з агнём. Спрые гэтай нядбайнасці ў пераважнай большасці выпадкаў п'янства. Людзі гінуць у п'яным угары...

Асабліва жахлівы выпадак распавёў мне інспектар пажарнай часці Цэнтральнага раёна Аляксандр Якіменка: "4 студзеня на вуліцы Байкальскай, дом 3, па дзіўных плямах на столі і сценах суседзі западозрылі, што ў кватэры 95, на сёмым паверсе, адбылося штосьці нядобрае. Выклікалі міліцыю. Узламалі дзверы і ўбачылі, што амаль уся кватэра пакрыта сажай. Прагарэў фатэль, агнём быў пашкоджаны ложак, на якім без прыкметаў жыцця ляжала 4-гадовае дзіця, а на падлозе ў кухні — ягоныя бацькі. Целы праляжалі каля двух тыдняў. Яшчэ 21 снежня суседзі чулі пах дыму, але тэлефанаваць у пажарную часць ніхто не рашыўся. Судова-медычная экспертыза паказала, што смерць наступіла ў выніку атручвання ўгарным газам.

Дзякаваць Богу, большасць ахвяраў пажараў усё ж такі паспяваюць выратаваць пажарныя. Каб больш даведацца аб умовах працы гэтых мужных людзей, я сустрэўся з начальнікам пажарнай службы Цэнтральнага раёна сталіцы Валерыем Зубкевічам. Яму слова:

— Вельмі шмат на пажары залежыць ад таго, калі пачынаюць выклікаць пажарных. Калі будынак не паспеў добра разгарэцца — можна яшчэ выратаваць і людзей, і многія каштоўнасці. Экіпажы нясуць дзяжурства круглыя суткі і ўжо праз паўхвіліны пасля выкліку выязджаюць на месца пажару. Нашая часць змагаецца з агнём не толькі ў паўночна-заходняй акрузе горада, але таксама ў Ждановічах і Ратамцы, часам даводзіцца гасіць і лясныя пажары. Штодня мы атрымліваем некалькі выклікаў, але амаль кожны трэці з іх — падманны.

Вельмі часта даводзіцца тушыць смецце ў пад'ездах і падвалах. Але, напэўна, рэкардсменам сярод нагодаў да выкліку пажарных з'яўляецца загаранне ежы ў посудзе, які пакінулі на пліце на агні. Даводзіцца ратаваць людзей не ад апёкаў, а ад атручвання дымам. Такіх выклікаў у горадзе бывае тры-чатыры штодня (а ўвогуле каля дзесяці). Так што абстаноўка досыць складаная, асабліва летам. Мала грошай на бензін, таму мы адмовіліся ад трэніровачных выездаў. Большасць машын ужо выпрацавала свае тэрміны службы, але пакуль удаецца самім іх рамантаваць.

Безумоўна, пажар лягчэй папярэдзіць, чым пагасіць. Таму вялікую долю нашага часу займае прафілактычная праца з насельніцтвам і ўстановамі, якія працуюць на нашай тэрыторыі. Інспектуем розныя аб'екты, патрабуем выканання правіл пажарнай бяспекі, а тых, хто адмаўляецца гэта рабіць, караем штрафамі (да 30 мінімальных заробкаў — службовых асобаў і да 7 — цывільных).

Вы, напэўна, ведаеце, што з 1 студзеня з усіх суб'ектаў гаспадарання (апрача бюджэтных арганізацый) дзяржава пачала браць спецыяльны падатак на рэарганізацыю пажарнай аховы ў сельскай мясцовасці — 0,0125 працэнта ад прыбыткаў установы, памножаныя на каэфіцыент, які залежыць ад вогнетрываласці будынка і небяспечнай вытворчасці. Раней на вёсцы там-сям існавалі пажарныя пасты, якія ўтрымлівалі калгасы. Тэхніка там была састарэлая, супрацоўнікі — таксама не надта кваліфікаваныя. Цяпер у калгасаў грошай вельмі няшмат, і таму кіраўніцтва краіны вырашыла замяніць калгасную ахову на ваенізаваную, дзяржаўную, павысіць заробкі сельскіх пажарных, набыць ім новую тэхніку.

Усе мы перажываем не лепшыя часы. І тым не менш, у жыцці заўсёды ёсць месца святу. Сёлета мы будзем урачыста адзначаць 142-ю гадавіну заснавання пажарнай службы ў рэспубліцы. 22 ліпеня ў парку імя М.Горкага мінскія пажарныя будуць дэманстраваць усім цікаўным сваё майстэрства барацьбы з агнём. Карыстаючыся выпадкам, запрашаю ўсіх чытачоў Вашай газеты.

— Дзякуй. Віншую са святам!

**ЮРАСЬ БАРЫСЕВІЧ**

СУПОЛЬНАСЦЬ

***У сімвалічным букеце беларускага народа не адны толькі васількі. З яго не вытыркваюцца, не дамінуюць, не захінаюць нікога, а хораша побач з усімі стаяць макі — кветкі далёкага стэпу. Нашы беларускія татары. Афіцыйная табліца аб насельніках Беларусі не вылучае іх у асобную графу, а ўключае ў 0,8 працэнта абсалютна невыразнага азначэння "ўсе астатнія". У гэты лік уваходзяць 12,5 тысяч татараў Беларусі.***

***Нашы сталыя чытачы, напэўна, памятаюць: газета "Культура" ўжо расказвала пра своеасаблівы побыт і духоўную культуру татараў-мусульман у нашай краіне (нарыс "У жыцці паўсядзённым" Ібрагіма Канапацкага і нарыс пра татарскія божніцы — мячэці Аляксандра Лакоткі).***

***І вось зноў мы запрашаем вас на сустрэчу з прадстаўнікамі татарскага народа — народа, які праз два гады будзе адзначаць свой 600-гадовы юбілей ад зафіксаванага ў летапісе дня нараджэння на беларускай зямлі. Нашы суразмоўнікі — сябры Згуртавання татараў-мусульман на Беларусі "Аль-Кітаб" Ібрагім Канапацкі, кандыдат гістарычных навук, і Якуб Якубоўскі, рэдактар квартальніка "Байрам". Тэма гаворкі — школа, кніга, вера — акрэслілася сама па сабе, ледзь толькі я папрасіла пахваліцца чым добрым. А то надта сумна, калі ўсе навокал адно толькі скардзяцца і толькі просяць "дайце, дайце"...***

# ШКОЛА,

# КНІГА,

**Якуб Якубоўскі:**

— Мусульманін кажа так: добрае — гэта ад Аллага. І калі выпрабаванне якое выпадае чалавеку ў жыцці, таксама трэба лічыць, што ідзе праверка чалавека на тое, якія ў яго перакананні. Калі яму цяжка, але ён змагаецца з гэтымі цяжкасцямі, пераадольвае іх, дык ведама, ён праяўляе свае лепшыя якасці, ён выконвае свае абавязкі перад Богам і людзьмі.

Я думаю, найбольш радасная падзея — гэта тое, што адбылася школа для мусульманскіх дзяцей у Смілавічах. Працуе яна толькі тыдзень, але вельмі важна, што гэта ў Смілавічах. Чаму? Бо гэта Усходняя Беларусь. Калі ў Заходняй Беларусі, прыкладам у Іўі, такія заняткі праводзіліся з татарскімі дзецьмі (афіцыйна — да 1939 года), то ва Усходняй Беларусі, дзе кіравалі атэісты, нічога падобнага не было і не магло быць.



Вельмі цешыць, што знайшліся бацькі, якія накіравалі дзяцей вучыцца, і знайшліся дзеткі, якія захацелі вучыцца. І знайшліся настаўнікі, энтузіясты, якія арганізавалі вучобу. Тут шмат намаганняў прыклаў Ібрагім Канапацкі, які родам адтуль. Гэта адно.

Другое. Маладыя людзі таксама прымаюць значны ўдзел у жыцці нашага Згуртавання. Гэта цешыць, бо людзі пажылыя, старыя, вядома ж, не вечна будуць жыць, нам трэба ведаць, хто прыйдзе на змену. Не толькі прадоўжыць, але і будзе развіваць нашу справу далей.

Мая выснова, можа быць, не вельмі глыбокая і не арыгінальная, але як не сказаць? Кожны свядомы беларус — гэта добры сябар татарыну. Я мог бы назваць дзесятак добрых беларусаў, якія шчыра аказваюць нам дапамогу, але пакрыўдзяцца тыя, каго, можа, не згадаю, дык лепей абыдземся без прозвішчаў.

Вялікая радасць, што ў Нацыянальнай бібліятэцы паявіліся кніжкі мусульманскай веры, вельмі цікавыя, вельмі карысныя і вельмі старыя.



**— 14 ліпеня, здаецца, у Нацыянальнай бібліятэцы адкрываецца выстава гэтых кніг?**

**Ібрагім Канапацкі:**

— Мы дамаўляліся з Таццянай Іванаўнай Рошчынай, загадчыкам аддзела старадрукаў і рукапісаў, на арганізацыю такой выставы і на правядзенне семінара, меркавалі запрасіць навукоўцаў. Але цяпер лета, час адпачынкаў, "мёртвы сезон", як кажуць, і мы не ўпэўнены, што ўдасца сабраць людзей.

А кнігі і сапраўды вельмі цікавыя — гэта фаліянты XIV — першай паловы XIX стагоддзя, ажно 28 рукапісаў. На арабскай мове, на фарсі (персідскай), на турэцкай, нават ёсць твор на невядомай нам мове. Яны апісаны, але зместу ніхто пакуль не прачытаў. Кнігі чакаюць сваіх адкрывальнікаў, сваіх даследчыкаў. Гэта не толькі рэлігійныя мусульманскія кнігі, як сказаў Якуб Адамавіч, але тут і паэзія, і проза, ёсць кнігі па тэхніцы, астраноміі. Захавальнік фонду, вельмі далікатны і прыемны чалавек Таццяна Рошчына (мы даўно знаёмыя, на добрай справе людзі сходзяцца і сябруюць), расказала, як пашчасціла знайсці гэтыя скарбы. З нейкай кантрольнай місіяй яна і яе калегі наведалі Гомельскую абласную бібліятэку. І як між іншым папыталіся ў гамяльчан, што ў іх ёсць незвычайнага. Ім паказалі рукапісы з бібліятэкі Паскевіча. Мінчане глянулі і ахнулі: кнігазбор, якому няма цаны! .

Кнігі трапілі да графа Паскевіча з Герата — гэта горад у Афганістане. Якім чынам — загадка. Мы ведаем, што Паскевіч быў вялікі бібліяфіл, і можа падчас якіх заваёўніцкіх паходаў на Каўказ, можа, ад дыпламатаў прыйшлі да яго гэтыя кнігі, можа, цар падараваў. Хто ж ведае?

Калі пра кнігі, то яшчэ прыемная падзея. Пазваніў нам неяк наш прыяцель Мікола Багадзяж. Ён часта з намі супрацоўнічае, як і ягоная жонка, Ірына Масляніцына, якая падрыхтавала шэраг матэрыялаў, і мы час ад часу друкуем іх на старонках нашага квартальніка "Байрам". Друкуем Міколавы артыкулы. На міжнароднай канферэнцыі, якая праходзіла ў траўні, ён выступіў з цікавым дакладам пра Якуба Ясінскага, кіраўніка Вызвольнага паўстання 1794 года, татарына паходжаннем. Дык вось Мікола Багадзяж паведаміў, што ў адной прыватнай краме, у двары Мастацкай акадэміі, ёсць татарскія кнігі. Мы з муфтыем сабраліся і — у краму. Кнігі здала адна яўрэйская сям'я, якая ад'язджала ў Ізраіль. Што нас здзівіла? Гэтыя кнігі, ды за вялікія грошы, можна было прадаць замежнікам. Вы ж ведаеце, яны ходзяць па нашых кнігарнях і скупляюць літаральна ўсё, цану кніг бачаць далёка наперад. Але гаспадар крамы не зрабіў гэтага, ён хацеў, каб гэтыя кнігі засталіся тут. Разумееце? Прозвішча гэтага чалавека — Снытко Аляксей Паўлавіч. Былы выкладчык Універсітэта культуры, дырэктар крамы "Антыкварыят".

Мы прымаем нейкія праграмы "Вяртанне". А на добры лад, трэба не вяртаннем займацца, а захаваннем, трэба ахоўваць ад вывазу, ад рабунку тое, што ў нас ёсць.

**— Дык што ж за кнігі набылі Вы ў "Антыкварыяце"?**

**Ібрагім Канапацкі:**

— Гэта кітаб. Цуд, напісаны, можна сказаць, маім пра-прапрадзедам у 1837 годзе ў мястэчку Смілавічы Ігуменскага павета. Думаю, не трэба тлумачыць, што значыць яшчэ адзін кітаб для нашай культуры і культуры Беларусі. Кніга цяпер захоўваецца ў нас, мы заключылі дамову з Нацыянальнай бібліятэкай аб зборы унікальных рукапісаў татараў і папаўненні фонду рэдкіх кніг. Мы і выставу хацелі прымеркаваць да прыезду Хасана Хабібі. Магчыма, і яму цікава было б паглядзець мусульманскія рарытэты ў славянскай Беларусі. Паверце, гэта не кан'юнктура. Да такіх выданняў ёсць цікавасць ва ўсім свеце, можа гэтай цікавасці трохі ў нас не стае.

**— Ёсць цікавасць, ды няма доступу, я так разумею.**

**Ібрагім Канапацкі:**

— Мы будзем рабіць мікрафільмаванне ўсіх кніг, каб адзін асобнік захоўваўся ў нашым таварыстве, другі — у Нацыянальнай бібліятэцы, каб кнігі не ляжалі мёртвым грузам, каб пайшлі ў навуковы ўжытак, каб вучоныя, даследчыкі прыязджалі і вывучалі. З гэтага нешта мелі б і бібліятэка, і дзяржава.

**— Вы пра замежнікаў, а сваіх вучоных хіба ў нас няма?**

**Ібрагім Канапацкі:**

— Пра тое, што няма даследчыкаў, няма спецыялістаў, мы гаварылі на нядаўняй нашай канферэнцыі, якая называлася "Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі". Няма тых, хто займаўся б філалогіяй, вывучэннем духоўных набыткаў нашага народа, які жыве тут ужо шэсць стагоддзяў.

**— Вы лічыце, усё ўпіраецца ў мову?**

**Ібрагім Канапацкі:**

— Не, усё ўпіраецца ў нашу ляноту, ды, можа, у нежаданне, у неразуменне пэўных сіл. У адной установе мы вялі гаворку, каб адкрыць семінар і займацца праблемамі арыенталістыкі (усходазнаўствам), як гэта ёсць у Польшчы, у Швейцарыі, напрыклад, іншых невялікіх, як і Беларусь, краінах. У нас вывучалася гісторыя СССР. Улады хочуць, каб так і працягвалася. Каб, барані Божа, людзі не ўведалі сапраўдную гісторыю свайго народа. Для ўладаў небяспечна, калі насельніцтва ведае праўду, калі яно становіцца народам. У той установе дзівіліся: нашто вывучаць цюркскія мовы? Нашто — беларускую? Рускую давай.

**Якуб Якубоўскі:**

— А яшчэ лепей карыстацца руска-беларускаю трасянкай, тады будзеш падобны да вялікага чалавека!

**— Наш прэзідэнт, які прыйшоў "усур'ёз і надоўга", так і заяўляе. Яго не вабіць мова Пушкіна, Дастаеўскага, Талстога. Ён за мову-паўмоўе, якія былі ў нас апошнія семдзесят гадоў.**

**Ібрагім Канапацкі:**

— Гэта кажа адзін. Астатнія маўчаць. Самае дзіўнае, што маўчыць, як рыба, наша творчая інтэлігенцыя. Няма ні аналітычных артыкулаў, ні абурэння, ні масавай



асветніцкай працы. Днямі выйшла новая незалежная, недзяржаўная газета "Народная воля". І з немалым накладам. А што ў ёй? Так, збор-салянка...

**— Вы кажаце, і не першыя, дарэчы, што раней жылі весялей. А ці бывае весела на імпрэзах, якія наладжвае Згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб"?**

**Ібрагім Канапацкі:**

— Вы закранулі складанае пытанне. Мы, на жаль, захапіліся ў таварыстве адным і не заўважаем іншага, можа, таму, што нашы браты па веры цвердзяць: ісламская рэлігія не дазваляе тое, гэтае... Але мы не павінны забывацца, што татары на Беларусі — асаблівыя мусульмане заходняга краю. Іх уяўленні вельмі розніліся, скажам, ад уяўленняў мусульман Узбекістана або іншых краін Азіі. Гэта былі адукаваныя людзі, яны мелі інтэлігенцыю, іх цягнула не толькі да культуры Усходу, але і да здабыткаў сусветнай культуры. Не буду паглыбляцца ў гісторыю, у філасофію. Хачу сказаць — былі татарскія балы...

**— Балы! Нядаўна мне давялося перакладаць тэкст з рускай мовы на беларускую. Сказ быў вельмі просты: "На бал съезжалось много гостей". Але на ім я і спатыкнулася, бо гаворка якраз ішла пра татараў. Па-татарску "бал" — гэта мёд. Вось і думаю, куды ж з'язджа-**

СУПОЛЬНАСЦЬ


سورة الفاتحة مكية وهي سبع آيات

بسم الله الرحمن الرحيم
الحمد لله رب العالمين ۞ الرحمن
الرحيم ۞ ملك يوم الدين ۞ إياك نعبد
وإياك نستعين ۞ اهدنا الصراط
المستقيم ۞ صراط الذين أنعمت عليهم
غير المغضوب عليهم ولا الضالين ۞

**ліся госці — на мёд, на баль-пачастунак ці на баль-пагулянку?**

**Якуб Якубоўскі:**

— Запрашалі толькі на пачастунак. Татары ніколі не пілі ні гарэлку, ні віно. Але гэта мог быць і баль. Сустрэліся людзі, задаволеныя гэтым, размовы цікавыя вядуць, маглі і песні паспяваць, і патанцаваць. Нашы беларускія мусульмане не лічылі, што нельга танцаваць парныя танцы — танцавалі. Але ніколі не выпівалі, не напіваліся.

**— Татарскія песні вясёлыя?**

**Ібрагім Канапацкі:**

— Усякія ёсць. Праўда, у беларускіх татараў аўтэнтычныя песні не захаваліся, хаця гэта спрэчная выснова.

**Якуб Якубоўскі:**

— Такі жанр, як частушкі, належыць татарам. Іх пазней запазычылі рускія, як і музычны інструмент балалайку. Вельмі многія матывы песняў прыйшлі з іншых краін. Тады не было значка, што забаронена капіраваць, забаронена запісваць. Беларуская народная песня "Ой, ляцела чорна галка па бары" — гэта татарская песня. Мелодыю да верша Шаўчэнкі "Рэвэ та стогнэ Днипр шырокий" таксама прыдумалі татары. "Во поле берёзонька стояла, во поле кудрявая стояла" здаецца надта рускай песняй, але тут і словы былі перакладзеныя з татарскай мовы, і музыка ўзятая ад татараў.

Вядома, ніхто цяпер не цікавіцца, ды і не трэба гэта, калі і хто прыдумаў песню, галоўнае, каб яна была прыемная, каб яе хацелася спяваць.

**Ібрагім Канапацкі:**

— Я не зводзіў бы творчасць татараў да адных частушак ці народных песняў. Татары не проста чыталі, чытаюць Кур'ан, яны яго спяваюць. Ёсць у нас такі від рэлігійнай літаратуры — зікр. У ім услаўляюць нашага прарока — мір яму. Такіх зікраў пакуль што знойдзена два — у Смілавічах і Клецку. Адзін зікр спрабаваў транскрыбаваць наш даўні сябра з Польшчы, прафесар Хенрык Янкоўскі, ён, дарэчы, напісаў граматыку крымскататарскай мовы. Зікр — цікавы від творчасці, але пакуль не вывучаны і таксама чакае сваіх даследчыкаў.

**Якуб Якубоўскі:**

— Дзякаваць Богу, навукоўцы ў нашых навукова-даследчых і навучальных установах вельмі добра ставяцца да нашага татарскага народа, даюць студэнтам, асабліва калі гэта студэнты-татары, тэмы курсавых і дыпломных прац пра татарскі народ. Такія працы ўжо ёсць, яны нас радуюць.

**— Гэта сапраўды добра, калі маладыя цягнуцца да сваіх вытокаў, да веры. Вера, і толькі, мусіць, яна, дазволіла татарам Беларусі захаваць сваю адметнасць, не знікнуць, не раствindependentрыцца канчаткова ў славянскім хрысціянскім свеце. У сталіцы Беларусі жыве 3 000 татараў. У нас вучацца студэнты-арабы, пашыраецца корпус мусульман-дыпламатаў, і ім хаця б раз на тыдзень, у святую пятніцу, трэба памаліцца ў мячэці. А мячэці — няма.**

**Якуб Якубоўскі:**

— Праблема не толькі ў тым, дзе мусульманіну памаліцца. У Мінску няма прытулку і тым, хто завяршыў свой зямны шлях. Нябожчыкаў мусім везці на мізар у Смілавічы. Пяць гадоў клапоцяцца татары, каб на агульных могілках былі вылучаны месцы для пахавання людзей розных канфесій. Пакуль жа нябожчыкі ляжаць так, як захацела савецкая ўлада. А мусульманіна трэба пахаваць так, каб ён, як падымецца ў Судны дзень, глядзеў у бок Меккі. Свае каноны ў праваслаўных, каталікоў, іудзеяў.

Ведаеце, вельмі цяжка чалавеку паміраць, ведаючы, што яго пахаваюць не так, як трэба. Але ўлады не звяртаюць на гэта ўвагі, хоць ніякіх выдаткаў тут не патрабуецца: не трэба ні асобнай зямлі, ні грошай. Для іх, на жаль, не стала ўзорам, не стала прыкладам "калыска рэвалюцыі" Ленінград, цяпер Санкт-Пецярбург, дзе на могілках у адным месцы хаваюць лютэран, у другім — праваслаўных, у трэцім — каталікоў і г.д.

**Ібрагім Канапацкі:**

— Тая мячэць, якая некалі стаяла на Вялікай Татарскай вуліцы (цяпер гэта праспект Машэрава, а на месцы мячэці ўзвышаецца гасцініца "Юбілейная"), была пабудавана ў 1902 годзе на сродкі нашых суайчыннікаў і каштавала паўтары тысячы залатых рублёў. Па тым часе гэта былі вялікія грошы. Пабудавалі яе за два гады. У 1962 годзе мінскія ўлады мячэць разбурылі. Мы даравалі тым таварышам гэты грэх, што ж, час быў такі, калі ўсё, і найперш святыні, бурылі і рушылі.



# БАЛЬ...

Мы прасілі даць месца для новай мячэці. Месца далі. За сабраныя народныя грошы ўжо зроблены праект. Ён ідэнтычны таму, ранейшаму. Над ім шмат, лічыце, за так, за дзякуй, працавалі добрыя людзі: прафесар з Політэхнічнай акадэміі Уладзімір Трацэўскі, архітэктар Барыс Аляксандраў. 20 мая, сёлета, мы заклалі сімвалічны падмурак: сабралі надмагільныя камяні з мізара, зарытыя ў зямлю, і перанеслі на месца пад мячэць. Праз тыдзень на сваё свята зноў прыйшлі на гэтае месца. І што ж пабачылі? Камяні павываарочваныя, параскіданыя. "Зона отдыха" — загараюць на касцях людзей, выгульваюць сабак...

Глум і здзек. Ён будзе працягвацца, пакуль не ўмяшаюцца ўлады, пакуль не аддадуць нам зямлю, пакуль не будзе агароджана гэтае месца.

**Якуб Якубоўскі:**

— Пішыце пра гэта. Газета "Культура" магла б нешта зрушыць, каб таксама стала падымаць гэтыя праблемы. І не толькі татараў, але і іншых нацыянальна-культурных аб'яднанняў тых народаў, якія жывуць на Беларусі. Тым больш, што днямі адкрыўся Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, утвораны яго савет. Мы не грошай просім — увагі.

**— Абавязкова, калі будзем жыць, будзем гэта рабіць. Дзякуй Вам, Якуб Адамавіч, і Вам, Ібрагім Барысавіч, за змястоўную гаворку. І калі на старонкі газеты патрапіла можа не самае цікавае, не самае важнае, то хай Бог мне даруе за гэта.**

**Алена ТРУСАВА**

**Запісана 12.07.1995 г., або 13 сафара 1416 года па мусульманскім календары.**

*На здымках:*

*1. Старонка тэфсіра (каментар да Кур'ана).*
*2.Школа для дзяцей-мусульман у Мінску. Заняткі вядзе муфтый Ісмаіл Александровіч.*
*3. Такой была мячэць у Мінску.*
*4. Першая сура з Кур'ана.*
*5. Сам-насам з Богам.*
*6. Такой будзе мячэць у Мінску праз п гадоў.*
*7.г.п. Узда. На мізары.*



## НЕВЯДОМАЕ КІНО



*Мы можам шмат размаўляць пра сучасную дзіўную палітыку кінапракату, хаця нічога дзіўнага ў ёй няма. Зараз галоўны крытэрый — рубель, а сумяшчаць на экранах "масавае" і "элітарнае" не заўсёды атрымоўваецца. Так у мінулым годзе праваліўся фільм Сцівена Спілберга "Спіс Шындлера", адзначаны шматлікімі "Оскарамі", і калі ўлічыць, што вядомая стужка Спілберга была прывезена на айчынныя экраны амаль адразу пасля выхаду на сусветны кінаэкран, яе "правал" можа выклікаць і здзіўленне і абурэнне. Хаця, як мне падаецца, для нашых айчынных, чытай — менавіта беларускіх кінагледачоў, нічога новага ў галіне адкрыццяў на экране тэмы жорсткасці на мінулай вайне (новай падаецца тэма халакоста) няма. Гэта якраз той выпадак, калі мы ўжо даўно былі "наперадзе ўсёй планеты..." Здаецца, што апошняя кропка на гэтай тэме і была пастаўлена менавіта на кінастудыі "Беларусьфільм" стужкай Элема Клімава паводле сцэнара Алеся Адамовіча "Ідзі і глядзі"...*

# ПАМІЖ МІНУЛЫМ І БУДУЧЫМ...

Калі звярнуцца да тэмы пракату сённяшніх фільмаў, якія дэманструюцца на экранах, можна прасачыць яшчэ адну сумную тэндэнцыю... З экранаў амаль зніклі дакументальныя кінастужкі, тое, што раней называлі словам "хроніка", хаця хроніка дакладна вызначае зняты кінаматэрыял. Толькі на мантажным стале гэта самая хроніка ператвараецца ў дакументальны, або, як зараз прынята ў спецыялістаў — неіграны кінематограф, у якім існуюць свае віды, жанры, напрамкі... Неіграны кінематограф — асобны, арыгінальны від кінамастацтва, які і існуе па законах мастацтва. У папярэднім нумары быў надрукаваны рэпартаж з Міжнароднага кінафестывалю кароткаметражнага кіно ў Санкт-Пецярбургу...

Такім чынам, фестывалі праводзяцца, фільмы здымаюцца — наогул, нармальны кінапрацэс, у якім адсутнічае апошняе, галоўнае звяно — сувязь з гледачамі... Можна ўспомніць, як у свой час у горадзе Мінску існаваў спецыялізаваны кінатэатр "Навіны дня", у якім паказвалі толькі "хроніку", і кінатэатр гэты быў запоўнены не толькі пенсіянерамі і не толькі з-за танных білетаў... Асноўнай публікай былі студэнты, якія глядзелі дакументальныя стужкі і хадзілі з задавальненнем на творчыя вечары беларускіх кінадакументалістаў. Гэта не настальгічны ўсхліп, калі падзеі падаюцца некалькі ў іншым святле... Я памятаю той час, бо нейкі перыяд сама працавала ў гэтай сістэме і добра памятаю натоўпы жадаючых паглядзець кінастужку Эсфіры Шуб "Падзенне дынастыі Раманавых", памятаю і напоўненыя залы на творчых вечарах кінарэжысёраў: Віктара Дашука, Вадзіма Сукманава, Аляксандра Карпава-малодшага і іншых... Так, можна лічыць, што адносіны гледачоў да кінематографа былі крыху іншымі і, наогул, дакументальны кінематограф існаваў у іншай палітычнай і культурнай сітуацыі... Але, калі звярнуцца і не ў такі ўжо далёкі час, можна нагадаць натоўпы людзей ля самага вялізарнага кінатэатра сталіцы "Кастрычнік". Фільм Анатоля Алая "Не плачце па мне" — стаў апошнім касавым дакументальным фільмам. Анатоль Алай пасля славутай стужкі пра трагічны лёс мастака Ісачова зняў яшчэ некалькі вялікіх і болей дасканалых у мастацкіх адносінах работ... Але гэта ўжо, як кажуць, іншая гульня.

Зараз дакументальнае кіно дэманструецца толькі па тэлебачанні... Мушу сказаць, што мы ўжо страчваем пакаленне гледачоў, якія проста змогуць успрымаць дакументальны фільм на кінаэкране...

Праз некалькі гадоў пасля традыцыйных аглядаў кінапрадукцыі, створанай у Беларусі, рашылі ўзнавіць традыцыю, калі можна прасачыць кінапрацэс, які адбываецца ў рэспубліцы... Прагляд дакументальных кінастужак адбываўся ў баку ад вялікага кіно. І вось тут традыцыя была парушана, бо заўсёды гэтыя віды мастацтва не падзяляліся на "галоўныя" і "не..." На "Панараме новага беларускага кіно" (пад гэткай гучнай назвай адбыўся фэст постперабудовачнага кіно Беларусі) з неіграным кіно стварылася і сумная і смешная сітуацыя...У зале прысутнічалі толькі члены журы, кінематаграфісты, іх сваякі і іх знаёмыя ... Іншы раз туды выпадкова траплялі проста гледачы, якія выклікалі асаблівую цікавасць кінарэжысёраў... Дзіўна, але яны не абураліся гэтай сітуацыяй. Сяргей Лук'янчыкаў, прадстаўляючы свае работы перад праглядам, з радасцю звяртаўся да тых, хто быў у глядзельнай зале. Зацікаўленасць была ўзаемнай, бо стужкі былі даволі цікавымі, рэжысёр раскаваным і таксама цікавым... Але падалося, што кінадакументалісты ўжо звыкліся з тым, што яны здымаюць фільмы, якія ў кінатэатрах дэманстравацца не будуць... Атрымаўся своеасаблівы напрамак "элітнага кінематографа" (пад элітай у дадзеным выпадку маецца на ўвазе вузкае кола гледачоў па вымушанай сітуацыі). Так даволі хутка праляцеў той час, калі дакументалістыка з экрана "галоснасці", "перабудовы" ператварылася ў невядомы кінематограф... Але справа ў тым, што апошні прагляд беларускага кіно паказаў, што менавіта гэтыя самы "невядомы хранікальны, дакументальны..." і стаў своеасаблівай творчай лабараторыяй, у якой па розных напрамках і шляхах развіваецца мастацтва... У той час, калі мае калегі пазяхалі ў глядзельнай зале, абураючыся, нізкім узроўнем "ігравікоў", журы дакументалістаў знаходзілася ў іншай сітуацыі, бо паўставала задача выбару лепшых сярод лепшых...

Зразумела, што не ўсё так ідэальна ў апальным відзе мастацтва... Кінапрацэс развіваецца, як і належыць яму, супярэчлівымі шляхамі, галоўнае, што ён існуе, дакументальны неіграны кінематограф Беларусі, у якім працуюць свае, айчынныя, а не заезджыя рэжысёры з нагоды танных эканамічных абставін...

Дык вось, першае — хто здымае. Асноўныя ўстановы па стварэнні неігравога кіно сёння — вытворчае аб'яднанне "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм", "Тэлефільм", існуюць таксама самастойныя незалежныя ад дзяржавы творчыя студыі неігравога кіно: "Таццяна", "Споведзь", "Радо", "Спадар Д"... Некалькі год працуе пад эгідай Міністэрства культуры і друку аб'яднанне "Белвідэацэнтр"... Кожнае творчае аб'яднанне развіваецца самастойнымі шляхамі (гэта датычыцца ў асноўным тэматычнага напрамку), але паколькі рэжысёры ўсё ж такі адны і тыя ж, можна размаўляць пра розныя творчыя напрамкі асобных мастакоў...

У адным з апошніх нумароў "ЛіМа" ў артыкуле; прысвечаным вынікам "Панарамы" (аўтар Н.Фральцова), прыводзіліся нібыта мае словы пра прадстаўнікоў беларускай дакументалістыкі, якія могуць прэтэндаваць на еўрапейскі ўзровень. Сярод імён прэтэндэнтаў першым стаіць прозвішча самага вядомага кінематаграфічнага Герастрата Юрыя Азаронка з яго стужкай "Баль сатаны". Невядома, чаму і як так атрымалася, што замест прозвішча рэжысёра, які сапраўды з'яўляецца зараз надзеяй айчыннага кінематографа (прабачце за зацёрты выраз) — Віктара Аслюка, з'явіўся Азаронак. Мушу выказаць сваю думку, не прэтэндуючы на ісціну. Не толькі з нагоды апошняй работы Азаронка "Нянавісць" (да аналізу гэтай стужкі менавіта з пункту гледжання развіцця кінамастацтва "Культура" ўжо звярталася), а прынцыпова я лічу, што пазіцыя рэжысёра-следчага, пазіцыя, калі мастак не аналізуе нават, а толькі выкрывае, у мастацтве даволі тупіковая. Гэта шлях не еўрапейскі, а хутчэй местачковы...

Але ў дадзеным выпадку як мастацкая з'ява, мяне больш цікавіць кінастужка Аслюка "Слёзы блуднага сына". Яго фільм з'явіўся своеасаблівай сенсацыяй новага беларускага кінематографа. Рэжысёр — філолаг па першай адукацыі, затым скончыў рэжысёрскі курс пад кіраўніцтвам Віктара Дашука. Ён паспрабаваў на стыку розных відаў мастацтва творча асэнсаваць гісторыю Беларусі. Погляд рэжысёра, ў гэтай рабоце — гэта погляд філосафа, лірыка, мастака... Фільм "Слёзы блуднага сына" — частка трылогіі "Малітвы маёй зямлі" — шматзначная, глыбокая карціна. Ён закранае складаную мастацкую праблему, праблему паказу і асэнсоўвання экраннымі сродкамі тэмы суадносін часу — гістарычнага і сучаснага.

У стужцы Аслюка выкарыстаны незвычайныя вобразныя рашэнні ў паказе мінулага часу. Мы ўжо звыкліся з тым, што кіно існуе ў часе, і атаясамліваем сябе з яго плынню. У дакументалістаў не так ужо шмат сродкаў для ўзнаўлення на экране рэальнага жыцця. Герц Франк, вядомы ва ўсёй былой краіне дакументаліст, казаў, што існуе адчуванне значнасці падзей, якія адбываюцца... А ўжо ад мастака залежыць, як, спалучаючы розныя фрагменты жыцця, ён зможа знайсці логіку сувязі паміж мінулым і будучым. Гэтая логіка павінна быць упісана ў маштаб уласнага мыслення мастака, не баючыся рэальнасці, якая можа быць і жорсткай і непрыемнай...

У гэтым сэнсе Віктар Аслюк, з аднаго боку, працягвае традыцыі асэнсоўвання ўласна хранікальнага матэрыялу на экране (хаця сам рэжысёр не любіць размаўляць пра творчыя традыцыі беларускай кінадакументалістыкі, але ўсё ж такі ёсць рэальны факт, што да з'яўлення на экране стужак Аляксандра Сакурава "Элегія", "Адзінокі голас чалавека", "Саюзнікі" ў пачатку 70-х з'явіўся фільм В.Дашука "А зязюля кукавала..." у жанры паэтычнай біяграфіі Янкі Купалы. Гэты фільм, на жаль, не атрымаў адпаведнага рэзанансу ў былым саюзным кінематографе, хаця ў ім была зроблена ўдалая мастацкая спроба асэнсаваць, разгледзець на экране абліччa часу). Аслюк належыць да рэжысёраў, якія з каласальнай адказнасцю ставяцца да экраннага выяўлення. Хроніку мінулага ён разглядае не толькі цалкам, але і па частках. У кожным кадры мінулага ён імкнецца ўбачыць, разгадаць схаваную энергію жыцця. Метады "расцяжэння хронікі" і кадры, дзе ён падоўжвае, "распячатвае" ігравыя кавалкі, — з'яўляюцца не проста фармальнымі прыёмамі. Мастак імкнецца пашырыць час жыцця нашых сучаснікаў і злавіць стан духу мінулага...

Кінастужка "Слёзы блуднага сына" знятая на стыку дакументальнага і ігравога кінематографа. Тэндэнцыя, якая ўжо існуе некалькі дзесяцігоддзяў як пошук новай экраннай рэальнасці (асабліва гэта адчуваецца зараз са з'яўленнем "відэа") і жаданне менавіта таленавітых рэжысёраў паспрабаваць сябе ў абодвух відах кінематографа — сапраўды дзіўная сітуацыя. Мастацкі фільм — гэта стварэнне свету, якога на самой справе няма, як унікальнай эстэтычнай сістэмы. Ад ігравога не трэба чакаць адэкватнасці жыцця, бо гэта справа дакументальнага кінематографа. Але, як высветлілася, у сучасным кінематографе сёння складана працаваць без навыку зносін з неапасродкаваным дакументам, бо ёсць у мастацкім кіно нейкая фамільярнасць... Зварот дакументалістаў да выкарыстання метаду ігравога — гэта адлюстраванне адзінай формы існавання мастака. Цікава, што з дакументалістаў атрымоўваюцца таленавітыя ігравікі (напрыклад, Валерый Рыбараў),а наадварот, чамусьці, не атрымоўваецца. Арыгінальныя рэжысёры Мікіта Міхалкоў і Атар Іаселіяні знялі сярэднія традыцыйныя дакументальныя фільмы.

У Аслюка ўжыванне метадаў мастацкага кіно — гэта не проста выкарыстанне магчымасці іншымі сродкамі ўзнавіць на экране падзеі, пра якія зразумела, не можа быць ніякага іканаграфічнага матэрыялу. Ён стварае новую экранную рэальнасць. Ён не стаў пераводзіць роздум і паказ гістарычных падзей у славесны рад. У фільме гучаць словы, але не ў якасці лектарскага каментара да мінулага (шлях, які абралі мноства калег рэжысёра), а палемічны вобразны роздум над гісторыяй...

З гэтым фільмам атрымоўваецца даволі унікальная, наогул заканамерная сітуацыя, калі яго надзённасць, як казалі раней, і актуальнасць не страчваюцца з цягам часу, што здараецца са шматлікімі дакументальнымі кінастужкамі, бо і зараз для нас важнейшымі застаюцца пытанні: што такое гістарычны час — фарс або трагедыя, і як адбываецца ператварэнне гэтага фарса ў трагедыю і наадварот?

За кароткі перыяд мы ўбачылі шмат стужак пра белыя плямы гісторыі. Мы прачыталі пра гэтыя чорныя дзіркі, пачулі пра іх на экране і ... адвярнуліся. Спачатку здавалася, што яны валодаюць нейкай прыцягальнай сілай і даюць мастакам шмат новых магчымасцей, але высветлілася, што кінематаграфісты сталіся ў большай ступені дыягностамі, чым аналітыкамі-мастакамі. І зараз адбываецца пераход дакументалістыкі на шлях мастацкага асэнсоўвання былых "гарачых" тэм... Неіграны кінематограф імкнецца сёння ўглядацца ў жыццё. А жыццё гэта настолькі шматграннае і невычэрпнае, што мастак здольны разглядзець і ўбачыць тое, што ўласціва яго творчай асобе. Вышэйшай ступенню майстэрства ў гэтым відзе кінематографа па-ранейшаму застаецца здольнасць перадаць на экране рэальнасць, не ламаючы яе, а прапусціўшы цераз сваю індывідуальнасць. І менавіта ў гэтым напрамку зараз працуюць нашы кінадакументалісты. Аб гэтых напрамках і аб прадстаўніках невядомага кінематографа — рубрыка-назва "Невядомае кіно", якая, спадзяёмся, будзе пастаяннай.

**Галіна ШУР**

КАНТРАМАРКА • КАМЕРТОН

# "Жыў вясёлы чалавек"...

*(Узгадваючы Д.Хармса)*

Мяне прыемна здзівіла, калі ў падручніках для малодшых класаў раптам з'явіліся вершы Даніла Хармса. Калі дакладней — ашчаслівіла (прабачце за жаночыя эмоцыі). Гэта значыць, нашым дзецям прапануюць творы таленавітага паэта па школьнай праграме! Лепей позна, чым ніколі.

Паэтычныя універсітэты маіх аднагодак па творах Даніла Хармса базіраваліся на выпадкова падслуханых бацькоўскіх размовах на кухнях. Пазней, па песнях Веранікі Долінай:

*Фасон широких шляп*
*Их выдал*
*Весь мир таких растяп*
*Не видел.*
*Их вывели во двор по*
*одиночке*
*И не было с тех пор*
*От них ни строчки.*

Сучасныя дзеці больш ведаюць візуальна айчынных пісьменнікаў дзякуючы тэлебачанню, што не дрэнна. Паколькі дар Божы "глаголом жечь сердца людей" плаўна перайшоў у вербальную традыцыю "сеять разумное, доброе, вечное". Прычым, з раніцы ў чарговую лёсаносную дату нашай дзяржавы, як, між іншым, у калоне дэманстрантаў супрацоўнікаў станцыі Мінск-Таварны апаратар буйным планам абавязкова "возьме" класіка літаратуры. У таго ж у момант, як раяль у кустах, паявіцца ў руках мікрафон...

А ўвечары таго ж дня, на канцэрце з нагоды свята ў чарговым жмерынкаўскім раёне ўсе той жа класік, пасля выканання эстрадных ламбад, хвілін пятнаццаць будзе распавядаць гледачам канала БТ мемуарныя показкі пад агульнай назвай "... і мы калісьці былі рысакамі". Што ні кажыце, але ўвечары слухаецца і глядзіцца лягчэй: прывабныя закусі, шампанскае ў кампаніі вясёлай і знаходлівай Зінаіды Б.

Здаецца, гэта асобная тэма, але спадзяюся, што вы зразумелі: у нашай краіне без удзелу знакамітасці не толькі карабка запалак не прадасі і песні не спееш, але і свята ўвогуле можа не адбыцца.

І ўсё ж такі, Мінск у траўні хадзіў у чэмпіёнах па правядзенні Міжнародных фэстаў. У рамках III лялечнага фестывалю прайшоў адзіны спектакль "Е + Х = ABRUOTO" (Францыя). У аснову тэатральнага дзеяння былі пакладзены вершы Даніла Хармса. Калі я даведалася, што гэты тэатр не мае рэжысёра, мастака, сцэнографа, дык адразу папрасіла інтэрв'ю ў актрысы тэатра мадам Эмілі.

**— Мяне вельмі ўразіў выдатна знойдзены вобраз спектакля рускага аўтара ў выкананні французскіх артыстаў. Чаму раптам Хармс? Паэт папулярны ў Францыі?**

— Усё — яго вялікасць выпадак. У 1992 годзе ў Францыі ўпершыню выйшаў пераклад вершаў Даніла Хармса. Калі мне далі прачытаць, я адразу закахалася ў яго творчасць. Потым я дала томік вершаў сваім калегам. Рэакцыя была аднаназначнай — ставіць спектакль. Але спачатку мы старанна вывучалі матэрыял, які быў звязаны з імем Хармса. У пошуках атмасферы творчасці паэта тых часоў нам дапамагала шмат сяброў.

**— А хіба ў тэатры няма загадчыка літаратурнай часткі?**

— Я недакладна ўяўляю функцыі гэткай адміністрацыйнай адзінкі. Калі вы заўважылі, наш тэатр складаюць чатыры артысты, якія з'яўляюцца і рэжысёрамі, і сцэнарыстамі...У нас простыя дэкарацыі, няма складаных канструкцый. Па-першае, з Хармсам жартаваць нельга, ён сам жартуе і патрабуе шмат свабоды на сцэне і ў жыцці, як нам падалося. Па-другое, зручна для гастроляў па краіне. Звычайна лета наша трупа праводзіць у гастролях па малых гарадах і вёсках Францыі. Правінцыяльны глядач цудоўны! Яму абавязкова хочацца памацаць усё рукамі і паглядзець: што ж там усярэдзіне дэкарацый адбываецца. Трэба сказаць, што і гараджане такія ж цікаўныя. Я лічу, што гэта нармалёва, калі глядач пасля спектакля вяртаецца ў рэальні жыцця, разумеючы, што ў мастацтве ёсць артыст і глядач. Міфы і легенды — гэта іншая галіна станаў чалавека, быцця. Нельга заганяць свядомасць дзіцяці ў канкрэтныя рамкі любога мастацтва. Яму трэба давяраць, а не падманваць.

**— Мадам Эмілі, і ўсё ж такі спектакль паводле Хармса добра ўспрымаецца французскім гледачом?**

— Вядома ж! Дарэчы, мы надта хваляваліся, калі ехалі да вас у Мінск. І гэта зразумела, паколькі вы — свае гледачы свайго аўтара. Уяўляеце наш стан, калі б мінскі глядач не пазнаў Хармса ў трактоўцы французаў?

Справа ў тым, што гэты спектакль нарадзіўся для вузкага элітарнага кола моладзі на віле Лежэ недалёка ад Ліёна. Там мы мелі поўны поспех у гледача, але ж у гледача, які добра ведае творы Міхаіла Зошчанкі, Міхаіла Булгакава. На віле перыядычна збіраюцца багатыя інтэлектуальныя людзі. Мы, артысты, дэманструем ім сваё мастацтва і існуем на іх ахвяраванні. Напрыклад, нашу трупу ангажуюць ужо шэсць гадоў. Хаця нам падабаюцца і гастролі. Ведаеце, якое захапленне адчувае артыст, калі глядач рэагуе на Палішынеля? Або калі бачыш сур'ёзныя вочы пяцігадовага дзіцяці, які злуецца на ненавісную птушку з твораў Хармса?

**— А з беларускім гледачом лёгка працаваць?**

— Брава! Мы ўпершыню ва Усходняй Еўропе, Мінску. Адкрыю сакрэт: наша хваляванне перабольшвала ўсе нашыя ўражанні, але толькі першыя пятнаццаць хвілін. Потым мы зразумелі, што мінскі глядач не менш патрабавальны, чым на віле Лежэ. Ваш горад спешчаны лялечным мастацтвам. А глядач, натуральна — прафесіянал.

**— Дзякуй за прыгожы спектакль.**

**Жанна ВАСАНСКАЯ**



***"Вы калі-небудзь бачылі Палішынеля?"***

**Фота Жанны МАЁРАВАЙ**

# РАДАСЦЬ ТВОРЧАСЦІ

## канцэрт-прэзентацыя зборніка песень Гродзенскага кампазітара Марка Копа

Шчодры на таленты гродзенскі край падарыў музычнаму свету многа вядомых імёнаў. У розныя гады тут жылі і працавалі Рыгор Шырма, Уладзімір Семяняка, Генадзь Цітовіч, Віктар Роўда, Аляксандр Шыдлоўскі, Віктар Войцік, Леанід Захлеўны,

Уладзімір Кандрусевіч, Валерый Іваноў, Андрэй Бандарэнка.

У свой час пры абласным Доме народнай творчасці была створана секцыя самадзейных кампазітараў. Зараз яна пераўтворана ў Асацыяцыю кампазітараў Гродзеншчыны. Адным з актыўных членаў кампазітарскай садружнасці з'яўляецца Марк Аляксандравіч Коп.

Калі гаварыць аб вытоках творчасці Марка Копа, то, напэўна, яны і ў песеннасці Гродзенскай зямлі, у спакойных водах Нёмана, у радаводзе кампазітара. Трэба адзначыць, што дзед яго — прафесійны музыкант, скрыпач, закончыў вышэйшае Імператарскае музычнае вучылішча ў Кіеве, канцэртаў у Расіі, Беларусі, на Украіне. Пасля Вялікай Айчыннай вайны працаваў выкладчыкам музычна-педагагічнага вучылішча. Нядаўна ў абласным цэнтры адбыўся канцэрт-прэзентацыя зборніка песень Копа "Над сінім Нёманам", што быў выдадзены Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь і Беларускім інстытутам праблем культуры. Гэтая падзея стала магчымай дзякуючы дапамозе рэктара інстытута У.Скарахода і прарэктара М.Крыловіч.У зборнік увайшло 18 песень самых розных жанраў: лірычныя, героіка-патрыятычныя, жартоўныя.

Яны напісаны пераважна на вершы гродзенскіх паэтаў Янкі Насуты, Уладзіміра Шурпы, Данута Бічэль-Загнетавай, а таксама на вершы вядомых беларускіх паэтаў А.Русака, П.Прыходзькі, А.Ставера. Апрацаваны песні для голасу і фартэпіяна Мар'янам Наско. Ён жа рэдагаваў зборнік. Доўгія гады Наско "шэфстваваў" над самадзейнымі гродзенскімі кампазітарамі, быў іх настаўнікам, старшым таварышам. І вось цяпер з яго блаславення песні Марка Копа набылі другое жыццё. Каштоўнасць гэтага спеўніка ў тым, што ён дазволіць спевакам, вакальным ансамблям, харавым калектывам узбагаціць свой рэпертуар творамі кампазітара-земляка.

Песні Марка Копа абапіраюцца на народную меладычную аснову. У першую чаргу гэта трэба аднесці да жартоўных песень, для якіх характэрныя непасрэднасць пачуццяў, здаровы народны гумар. Гэта "Чарацінка", "Ласы заяц" (сл. Я.Насуты), "Вяселле" (сл. П.Прыходзькі), "Жоначка" (сл.М.Мамонькі), "Я чакаю на марозе" (сл. Д.Бічэль-Загнетавай). Лірычным песням Копа ўласцівы пранікнёнасць і шчырасць. Сярод іх "Гродзенская лірычная" (сл.У.Шурпы), "Спеў пра пушчу" (сл.Я.Насуты), "За ракою" (сл. А.Русака). З прафесійнага пункту гледжання песні Копа напісаны пераканаўча: дакладныя формы, выразныя мелодыі, назбітыя гармоніі.

Кампазітар без выканаўцаў — як птушка без крылаў: ніхто пра яго не даведаецца, ніхто не пачуе яго музыку. На шчасце, у Копа яны ёсць. Гэта вядомыя творчыя людзі. З песняй "Невядомы салдат" выступіў лаўрэат міжнародных конкурсаў, народны хор царкоўнай музыкі "Дойлідства" пад кіраўніцтвам Наталлі Бульцэвіч. Заслужаная настаўніца рэспублікі Ніна Жыткова праспявала песні "Я дачка твая" і "Абеліск". Вакальны ансамбль "Расінка" /кіраўнік Ніна Бяссмертная/ выканаў "Гродзенскую лірычную". Публіка цёпла прыняла сямейны дуэт у складзе аўтара спеўніка і яго дачкі Марыны. Яны прапанавалі аўдыторыі песню "Чарацінка". Жанравыя сцэнкі "Спадабацца хачу" і "Ласы заяц" жыва перадала салістка хору "Дойлідства" Вера Ярошына. Лірычныя песні "Б'юць крыштальныя крыніцы" і "Чаромха белая" праспявала вакальная група "Гармонія" ДК хімікаў. Гэтыя самабытныя калектывы пастаянна ўключаюць у праграмы сваіх канцэртаў песні гродзенскіх кампазітараў, за што нельга не выказаць падзяку яго кіраўнікам — спявачцы Наталлі Боевай і акампаніятару Анатолю Шамлі.

На канцэрце-прэзентацыі панавала атмасфера радушша і добразычлівасці.

Аб аўтару зборніка расказаў найстарэйшы гродзенскі кампазітар А.Шыдлоўскі. Больш за 40 гадоў іх звязвае чалавечае і творчае сяброўства.

Вобразна, з іранічным падтэкстам расказалі аб сваім сааўтарстве з кампазітарам паэты У.Шурпа і Я.Насута.Хто, як не літаратары, умее пажартаваць па-сяброўску пакпіць з нябачных чужым вачам "азарэнняў" творчых людзей?

Насычанае гумарам і шчырай добразычлівасцю было выступленне загадчыка аддзела культуры Свіслацкага райвыканкама В.Раманцэвіча, які не без падстаў лічыць, што такія, як ён, маюць поўнае права ад імя матухны-зямлі перасцерагчы кампазітара ад завоблачных вышыняў. Цяжка пераацаніць ролю радавых культработнікаў у папулярызацыі песень сярод народа. Таму іх прысутнасць на аўтарскім канцэрце была больш чым дарэчы.

Уяўленне аб кампазітары Марку Копу будзе няпоўным, калі не сказаць аб яго чалавечых якасцях. Яшчэ ў 1971 годзе Коп стаў дырэктарам абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці. Праўда, ён не лічыць сябе чыноўнікам. Усё жыццё М.Коп складаў песні, падтрымліваў таленавітыя калектывы і адораную моладзь.

Тым не менш, займаючы адміністрацыйную пасаду, ён знаходзіў новыя формы ў культурна-асветнай рабоце. Пры яго садзейнічанні ўзнікла Асацыяцыя кампазітараў Гродзеншчыны.

Нарэшце, нельга не ўспомніць аб асноўным прынцыпе Копа-чалавека: ён лічыць сваім абавязкам развіваць і памнажаць народныя традыцыі і ў першую чаргу — народную творчасць Прынёманскага краю. Ён разумее, што нельга адрываць ад зямлі і што цэннасць чалавека вызначаецца не п'едэсталам і трыбунамі, не славай і пашанай, а непасрэднай, блізкасцю да народа. На мой погляд, Марк Коп дасягнуў самага галоўнага ў жыцці: рэалізаваў сябе як творчая асоба на сваёй роднай зямлі.

**В.РАДЗІВОНАЎ, старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

# ВЯРТАННЕ ЕЛЬСКІХ

З'яваў музычнага жыцця на Беларусі можна па праву лічыць выданне унікальнага альбома "Музыка сям'і Ельскіх" (пад адной вокладкай сабраны творы для фартэпіяна). Выдаўцы зборніка — таварыства з абмежаванай адказнасцю "Поліфакт" пры ўдзеле Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага тэатральнага канцэртнага аб'яднання "Беларуская капэла". Укладальнікі — Яўген Паплаўскі і Віктар Скорабагатаў. Рэдактар музычнага тэксту — Ігар Алоўнікаў. Уступнае слова напісала Л.Міткевіч.

Адметнасць альбома ўжо ў тым, што ўпершыню за доўгія гады зацікаўлены чытач атрымаў выданне музычнай спадчыны братоў Ельскіх — Міхаіла і Аляксандра. Сустрэча ўлюбёных у музыку людзей з альбомам супала з канцэртам старадаўняй музыкі. Мерапрыемства было наладжана ў ваколіцах старажытных Дудзіч, паблізу колішняй сядзібы Ельскіх.

**Кастусь СЕМЯНОВІЧ**

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

# AUCIUKI MADE IN BIELARUŚ

## РЭПАРТАЖ З ЛАПЦЯМІ НА ШЫІ

*(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)*

Артысты купалаўскага тэатра Генадзь Аўсянікаў і Юрась Авяр'янаў, не шкадуючы, раздорвалі пасажырам анекдоты, ад чаго я, узгадваючы нядаўна знятыя швы, ухапіўся за асадку і крывымі літарамі вывеў першы, баючыся, каб не апошні, сказ у сваім нататніку:"У выпадку маёй ... прашу спытаць з Г.А. і Ю.А." Але гэта былі толькі кветачкі. Усе выпрабаванні наперадзе, і я адчуваў, што не доўга мне ўжо засталося маяцца...

Як размясціліся ў калінкавіцкім гатэлі, не паспеўшы агледзецца, адразу "па конях" — у вёску Малыя Аўцюкі, дзе меўся адбыцца агляд сялянскіх падворкаў. Лепшых гаспадароў чакалі каштоўныя падарункі: халадзільнік, пыласос, ровар і шмат чаго іншага. Але не так ужо і проста было трапіць сюды гасцям са сталіцы і людзям, што з'ехаліся з усёй акругі. Пры ўездзе ў Аўцюкі шпарка працавала мытня — кабеты ў нацыянальных строях, дзецюкі ў "афганках" з самаробнымі стрэльбамі цераз плячо. Хабары не прымаліся, усё — па закону. Мытная пошліна — анекдот. Табе ставяць спецыяльную пячатку, і ты раптам апынаешся ўжо ў іншай дзяржаве.

Асабліва ад мытнікаў дасталося галоўным жартаўнікам, членам журы: першаадкрывальніку Мала-й-Вялікааўцюкоўскай рэспублікі, аўтару кнігі "Аўцюкоўцы" Уладзіміру Ліпскаму, паэту Сяргею Законнікаву, "вожыкаўцу" Валянціну Блакіту, ужо вышэй узгаданым Тадэвушу Стружэцкаму, Генадзю Аўсянікаву, Юрасю Авяр'янаву...Іх прымушалі спяваць, танчыць, чытаць вершы. На аўцюкоўскай мытні назіраліся чэргі, амаль такія, як у свой час на беларуска-польскай мяжы.

Травянуўшы анекдот, на ілбе атрымаў сваю пячатку і аўтар гэтых радкоў. Дзіва што, за дзень перад ад'ездам уся рэдакцыя ад прыбіральшчыцы да самага галоўнага — толькі і рабіла, што дэкламавала мне свае анекдоты. Во смеху было! Ім. Менавіта з таго дня я і пачаў весці адлік апошніх хвілін свайго жыцця...

У Малых Аўцюках ці не каля кожнай хаты былі выстаўлены сталы з разнастайнымі стравамі: грыбочкі, агуркі, кілбаса, маладая бульбачка і пляшкі з мясцовым фірмовым напоем "Аўцюкоўская салодкая" ("аўцюкоўка"). Усе само ў рот прасілася. Частавацца не забаранялася... На платах развешаны прадметы ткацтва: ручнікі, абрусы, посцілкі і дыванкі. Журы даводзілася ўлічваць таксама і гасціннасць гаспадароў.

Лепшых вызначыць сапраўды было складана. Кожны аўцюк — адметны па-свойму, асабіста я пазнаёміўся ўвогуле з 200-працэнтным аўцюком — Міхалам Дулубам. "Вось я — з Малых Аўцюкоў, — кажа ён, — а жонка мая з Вялікіх. Таму і лічу сябе дзвесцепрацэнтным".

Бліжэй да вечара ў Аўцюкі пафэсціць са сталіцы прыехалі міністр культуры і друку Беларусі Анатоль Бутэвіч, слынныя паэты Генадзь Бураўкін і Ніл Гілевіч. Адмысловым прывітаннем шаноўных гасцей сустрэў Генадзь Аўсянікаў, які заўсёды быў у акружэнні вялікага натоўпу народа. Ну, на тое ён і народны...

На раніцу чакаўся яшчэ адзін агляд сялянскіх падворкаў. Толькі ўжо ў вёсцы Вялікія Аўцюкі. Дарэчы, у Вялікіх — менш двароў, чым у Малых,затое расцягнуліся ў даўжыню на сем кіламетраў. І зноў мытня — анекдот — пячатка, гасціннасць гаспадароў, бульбачка, "аўцюкоўка", бульбачка, песні-скокі. Зноў галаўны боль у журы, не столькі ад спёкі, колькі ад, здаецца, невырашальнай праблемы — як вылучыць лепшага з лепшых. Але прызы ўсё ж такі знайшлі сваіх гаспадароў. Іх атрымалі сем'і Лабанавых, Комаў, Лышчанкаў, Гаркушаў.

Галоўныя дзействы фэсту для каласкоў і калінак разгарнуліся ўвечары 8 ліпеня на ўзлеску паміж Малымі і Вялікімі Аўцюкамі. Тут




сярод ялінак і сасонак былі адбудаваны тры пляцоўкі: цэнтральная, тэатральная і гульнёвая. Яшчэ адна чакала сваіх гасцей у самым цэнтры Калінкавіч. Спецыяльна для свята раённыя службы правялі да ўзлеску тэлефонную сувязь. Усе паслугі — бясплатныя.

Для ўдзелу ў канцэртах у Аўцюкі з'ехалася каля чатырохсот выканаўцаў. Былі госці з Літвы, Украіны, Расіі. Нашы суседзі з Польшчы за колькі дзён да адкрыцця Першага ўсебеларускага фэсту народнага гумару нечакана адмовіліся ад запрашэння нашых арганізатараў бліснуць сваімі жартамі. Не знайшлі патрэбную колькасць канкурсантаў. З чаго вынікае толькі адно — у Польшчы з гумарам слабавата. Затое пераважная большасць удзельнікаў — нашы суайчыннікі, прадстаўнікі бадай усіх рэгіёнаў Беларусі. А ў склад журы ўваходзіла таксама дырэктарка Дома гумару і сатыры з балгарскага горада Габрава, Тацяна Цанкава.

На працягу двух дзён на ўзлеску ладзіліся кірмашы па продажы тавараў народных промыслаў па даволі, між іншым, даступных цэнах. Пахвалюся: прыдбаў дзве пары новенькіх лапцей. Свае карыкатурныя малюнкі на суд гледачоў выставіў мастак з "Вожыка" Юрась Рыжыкаў. Праводзіўся агляд гумарыстычных старонак раённых і гарадскіх беларускіх газет. Лепшымі была прызнана творчасць нашых калег з "Віцьбічаў", "Весніка Глыбоччыны", "Калінкавіцкіх навінаў". Каму дастаўся дыплом, а каму і дыктафон. Усіх віншуем!

Адам Швед, старшыня Пяроўскага сельскага савета Жыткавіцкага раёна гасцінна частаваў усіх тут жа зваранай юшкай, ракамі і кілішкам у абмен на аўцюкоўскія грошы, даляры і марачкі. Не ведаю, як наконт дзённай выручкі, а анекдотаў і прыпевак ён сабраў багата.

Трапіць на свята таксама было не проста. Праз канаву стаяў спецыяльна збудаваны масток са шлагбаумам. Давай анекдот — за што зноў атрымліваеш пячатку з адзнакай "Аўцюкоўская мытня". Паверце, гэта была самая вясёлая мытня на ўсім зямным шары.

Тысячы і тысячы жадаючых прайшло праз аўцюкоўскі масток. Між іншым, кожны мог прыняць удзел у шматлікіх конкурсах і латарэях. Было б толькі крыху пачуцця гумару.

Адразу за мытняй кіпела праца ля палаткі прыстойных і непрыстойных (выключна для навукі) анекдотаў. Абмежаванняў ва ўзросце не існавала. Будзь ты сівым дзядком з кіёчкам ці немаўляткам у люльцы. Самых прыстойных з непрыстойных разказчыкаў чакалі каштоўныя падарункі: гусі, качкі і падпіска на некаторыя рэспубліканскія выданні. Усяго было праслухана каля ста пяцідзесяці анекдотаў. Журналіст "Культуры" вызначыўся як адзін з самых прыстойных, бо адмовіўся ад дэкламавання здабыткаў гэткай вуснай народнай творчасці.

Людзі адпачывалі,весяліліся, пілі і закусвалі... Разбіўшыся на групкі, расцягнуліся на кіламетры два ў глыб лесу. Пільна сачылі за парадкам супрацоўнікі раённага аддзела ўнутраных спраў. Але ўсё было надзіва спакойна. Міліцыянеры ўсміхаліся і жартам адказвалі на жарт, баючыся, мабыць, быць дэпартаванымі за дрэнны настрой па-за межы Мала-й-Вялікааўцюкоўскай рэспублікі. Як паведаміў старшыня Калінкавіцкага райвыканкама Мікалай Пранкевіч, з восьмага на дзевятае ліпеня ў лесе заначавала каля 100 аўцюкоўцаў (па дадзеных старшыні РАУС Фёдара Джума — 199), і да кожнага з іх з моманту забыцця было прыстаўлена па міліцыянеру, якія адцягвалі змарнелых у цянёк і сачылі, каб тых не пакусалі ... камары і драпежнікі. Дарэчы, адным з канкурсантаў быў Аляксандр Біндэга, участковы міліцыянер з вёскі Крукавічы Беразнянскага сельскага савета. Ён выхваляўся, што трое сутак без перапынку на сон можа баяць анекдоты і смешныя жыццёвыя аповяды.

Калі гасцявалі ў Крукавічах, паміж доўгачарговай анекдатычнай абоймай, я паспеў задаць Аляксандру толькі адзінае пытанне: чым асабліва яму, як міліцыянеру, запомнілася сумнавядомая кампанія супраць алкагалізму і самагонаварэння. На што ён шчыра адказаў:

— Чым больш я... гэта, ну як яго, ужываю, тым менш у вёсцы п'яных і злачынцаў.

Выбачайце, калі ласка, але з песні слова не выкінеш. Толькі ў пацверджанне вышэй прыведзенага выказвання дадам: як паведаміў Фёдар Джум, за два дні фэсту не было зарэгістравана ніводнага правапарушэння.

З раённага бюджэту на святкаванне не было затрачана ні капейчыны. Усе падарункі — ахвяраванні мясцовых калгасаў і саўгасаў, гарадскіх прадпрыемстваў: мэблевыя гарнітуры, дываны, гусі, парсючкі і качкі. Халадзільнікі, пыласосы ўвогуле набываліся па цэнах мінулага года. Галоўныя прызы — два кані. Планаваўся, праўда, напачатку адзін. Справы складваліся як з тымі парсючкамі, — атрымалі каля пятнаццаці, а пасля ад спонсараў не было адбою. Так што, пры размеркаванні прызоў журы часцяком збівалася з ліку. Вышэйшая матэматыка яму была не па сілах.

Галоўны прыз — чорны двухгадовы жарабец, адзінагалосна членамі журы быў прысуджаны раённаму аддзелу ўнутраных спраў за забеспячэнне спакою і парадку падчас фэсту і з надзеяй на далейшую пасяховую вышукова-аператыўную працу. Каня адразу празвалі Аўцюком, і яго пад цуглі з вачэй людскіх звёў Фёдар Джум. Цяпер у Калінкавічах будзе свая конная міліцыя...

Другога, рудога жарабка па мянушцы Каласок прысудзілі ганароваму аўцюку Уладзіміру Ліпскаму. Але старшыня журы, якога, дарэчы, пры падвядзенні вынікаў ласкава папрасілі з душнай палаткі, каб падыхаць свежым паветрам, гаспадаром Каласка не пабыў і пяці хвілін, — ён перадарыў яго вучням вялікааўцюкоўскай сярэдняй школы.

...Свята скончылася, але з пляцовак яшчэ даносіліся жарты і музыка. Міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч паабяцаў адшукаць грошы для наступнага фэсту і зрабіць яго штогадовым. Усім жа гасцям старшыня Клімавіцкага райвыканкама надаў званні ганаровых аўцюкоў і запрасіў яшчэ раз да сябе ў госці, як толькі выгадуюцца парсючкі ды качкі...

**МІХАСЬ РАВУЦКІ,**
**наш спецкарэспандэнт, амаль аўцюк**
Мінск-Аўцюкі-Мінск

**Удакладненне. У мінулым нумары "Культуры" дапушчана памылка: ў матэрыяле Серафіма Андраюка "Пра калегу і сябра" трэба чытаць: "Жахлівыя гады фашысцкай акупацыі, выгнанне ў Нямеччыну"... і далей па тэксце. Просім прабачэння ў аўтара.**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адлюстроўваць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 5000
Замова 2611
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.